

# Ніва



ГОД I № 8 БЕЛАСТОК, 22 КРАСАВІКА 1956 г. ЦАНА 60 гр.

Александр Твардовский

## ЛЕНИН И ПЕЧНИК

В Горках знал его любой,
Старики на сходку звали,
Дети — попросту, гурьбой,
Чуть завидят, обступали.

Был он болен. Выходил
На прогулку ежедневно.
С кем ни встретится, любил
Поздароваться душевно.

За версту — как шел пешком —
Мог его узнать бы каждый.
Только случай с печником
Вышел вот какой однажды.

Видит издали печник,
Видит: кто-то незнакомый
По лугу по заливному
Без дороги — напрямик.

А печник и рад отчасти, —
По-хозяйски руку в бок, —
Ведь при царской прежней власти
Пофорсить он разве мог?

Грядка луку в огороде,
Сажень улицы в селе, —
Никаких иных угодий
Не имел он на земле...

— Эй ты, кто там ходит лугом!
Кто велел топтать покос?! —
Да сплеча на всю округу
И поехал и понес.

Разошелся.
А прохожий
Улыбнулся, кепку снял.
— Хорошо ругаться можешь, —
Только это и сказал.

Постоял еще немного,
Дескать, что ж, прости отец,
Мол, пойду другой дорогой...
Тут бы делу и конец.

Но печник — душа живая, —
Знай меня, не лыком шит! —
Припугнуть еще желая:
— Как фамилия? — кричит.

Тот вздохнул, пожал плечами,
Лысый, ростом невелик.
— Ленин, — просто отвечает.
— Ленин? — Тут и сел старик.

День за днем проходит лето,
Осень с хлебом на порог,
И никак про случай этот
Позабыть печник не мог.

И по свежей по пороше
Вдруг к избушке печника
На коне в возке хорошем
Два военных седока.

Заметалась беспокойно
У окошка вся семья.
Входят гости:
— Вы такой-то?
Свесил руки:
— Вот он я...

— Собирайтесь! —
Взял он шубу,
Не найдет, где рукава.
А жена ему:
— За грубость,
За свои идешь слова...

Сразу в слезы непременно,
К мужней шубе — головой.
— Попрошу, — сказал военный, —
Ваш инструмент взять с собой.

Скрылась хата за пригорком.
Мчатся санки прямиком.
Поворот, усадьба Горки,
Сад, подворье, белый дом.



„Ленін гутарыць з чырвонагвардзейцамі". Малюнак П. Васільева.

В доме пусто, нелюдимо,
Ни котенка не видать.
Тянет стужей, пахнет дымом —
Ну овин — ни дать ни взять.

Только сел печник в гостиной,
Только на пол свой мешок —
Вдруг шаги, и дом пустынный
Ожил весь, и на порог —

Сам, такой же, тот прохожий.
Печника тотчас узнал.
— Хорошо ругаться можешь, —
Поздоровавшись, сказал.

И вдобавок ни словечка,
Словно все, что было, — прочь.
— Вот совсем не греет печка.
И дымит. Нельзя ль помочь?

Крякнул мастер осторожно,
Краской густо залился.
То есть как же так нельзя?
То есть вот как даже можно!...

Сразу шубу с плеч — рывком,
Достает инструмент. — Ну-ка... —
Печь голландскую кругом,
Точно доктор, всю обстукал.

В чем причина, в чем беда
Догадался — и за дело.
Закипела тут вода,
Глина свежая поспела.

Все нашлось — песок, кирпич,
И спорится труд, как надо.
Тут печник, а там Ильич
За стеною пишет рядом.

И привычная легка
Печнику работа.
Отличиться велика
У него охота.

Только будь, Ильич, здоров,
Сладим любо-мило,
Чтоб, каких ни сунуть дров,
Грела, не дымила.

Чтоб в тепле писать тебе
Все твои бумаги,
Чтобы ветер пел в трубе
От веселой тяги.

Тяга слабая сейчас —
Дело поправимо,
Дело это — плюнуть раз,
Друг ты наш любимый...

Так он думает, кладет
Кирпичи по струнке ровно.
Мастерит легко, любовно,
Словно песенку поет...

Печь исправлена. Под вечер
В ней защелкали дрова.
Тут и вышел Ленин к печи
И сказал свои слова.

Он сказал, — тех слов дороже
Не слыхал еще печник:
— Хорошо работать можешь,
Очень хорошо, старик.

И у мастера от пыли
Зачесались вдруг глаза.
Ну а руки в глине были —
Значит, вытереть нельзя.

В горле где-то все запнулось,
Что хотел сказать в ответ,
А когда слеза смигнулась,
Посмотрел — его уж нет...

За столом сидели вместе,
Пили чай, велася речь
По порядку, честь по чести,
Про дела, про ту же печь.

Успокоившись немного,
Разогревшись за столом,
Приступил старик с тревогой
К разговору об ином.

Мол, за добрым угощеньем
Умолчать я не могу,
Мол, прошу, Ильич, прощенья
За ошибку на лугу.

Сознаю свою ошибку...
Только Ленин перебил:
— Вон ты что, — сказал
с улыбкой, —
Я про то давно забыл...

По морозцу мастер вышел,
Оглянулся не спеша:
Дым столбом стоит над крышей, —
То-то тяга хороша.

Счастлив, доверху доволен,
Как идет — не чует сам.
Старым садом, белым полем
На деревню зачесал...

Не спала жена, встречает:
— Где ты, как? — душа горит...
— Да у Ленина за чаем
Засиделся, — говорит...

ШТОТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

# Вясенні дзень год корміць

Сярод сялян - хлебаробаў існуе вельмі істотная і праўдзівая прымаўка, што „вясенні дзень год корміць".

Сапраўды, ад добра праведзеных веснавых прац у полі залежыць будучы ўраджай, а ад ураджаю залежыць дабрабыт кожнага чалавека.

Таму добрыя гаспадары дбаюць, каб веснавую сяўбу правесці ў пару, каб не спазніцца. Трэба памятаць, што адзін вясенні дзень многа значыць, што спазніць сяўбу — гэта страціць з гектара некалькі цэнтнераў збожжа.

Хлебаробы нашай краіны з года ў год штораз больш стасуюць навейшую сістэму апрацоўкі зямлі, штораз больш карыстаюцца навейшымі сельскагаспадарчымі машынамі.

Машыны гэтыя палягчаюць цяжкую працу сялян і прычыняюцца да павелічэння ўраджаяў.

Аднак, шырокае застасаванне навейшай тэхнікі ў сельскай гаспадарцы і поўнае выкарыстанне сельскагаспадарчых машын з'яўляюцца магчымым толькі ў сельскагаспадарчых кааператывах і таму штораз больш сялян да іх уступае, і таму лік сельскагаспадарчых кааператываў у нашай краіне з года ў год павялічваецца.



*У вялікіх дзяржаўных і калектыўных гаспадарках, штораз больш стасуюцца ў палявых працах самалёты. Яны рассяваюць мінеральныя ўгнаенні і распыльваюць хімічныя прэпараты на палях.*



*На палях нашай краіны ўсё больш працуе сельскагаспадарчых машын, якія палягчаюць цяжкую працу сялян. Крыжаваны пасеў сеялкай павялічвае ўраджай збожжа на 2—3 цэнтнераў з гектара.*





*На здымку бачыце машыну да поліва буракоў, якая ачышчае іх тры гектары ў дзень. Гэтую працу без дапамогі машыны мусілі-б выконваць 160 чалавек у дзень.*

# ЦІ-Ж НЯМА ЧЫМ ГАНАРЫЦЦА?

З вясенннім цёплым павевам шуміць белая бяроза. Узрадавана стаіць яна і ганарыцца сваёю красой — так як ганарыцца кожны у нашай краіне, хто пайшоў новай дарогай у жыцці.

Сонейка схілілася ўжо з поўдня і пазірала праз вокны мясцовай школы, у якой сабіраліся жыхары вёскі Меляшкоў. На тварах людзей радасць і гордасць.

— Трудна паверыць у дасягненні, якія мы здабылі да сённяшняга дня — гаворыць Іван Лавіцкі.

Нялёгка гэта ўсё прышлося. Маем ужо пабудаваную абору на 80 кароў. Невялікі хлеў на дробны гаспадарчы інвентар. Два гады ўжо прайшло, як пасаджана два гектары саду. Закуплена два вазы на гумовых калёсах, два вазы жалезныя, шрутоўнік, электрычны рухавік, дзве сеялкі да хімічных угнаенняў, веялку, конную грабілку і крайзэгу.

Памятаюць усе, як на пачатку 1954 года ў кааператыве была толькі адна карова. А сёння маем 12 дойных кароў, аднаго бычка і 7 штук маладняка, а таксама гадуем двое сёлетніх цялят.

Сёння, калі ўвайдзеш ў абору і глянеш на табун свінней, успамінаецца 1954 год. Тады, не маючыніводнага парасяці, купілі 6 свінаматак, каб развесці гадоўлю.

Цяпер ужо маем 24 свінней, 35 парасят, 4 коней. Маёмасць нашага кааператыва за два гады працы налічвае 459 тысяч злотых.

Калі ў 1954 годзе за працадзень атрымалі па 5,5 клг. збожжа, дык у 1955 годзе па 6,04 клг. апрача таго па 5 клг. сена і 3 клг. саломы, а таксама па 1,13 зл грошамі".

З вялікай увагай слухалі ўсе прысутныя аб агульных дасягненнях кааператыва, але больш усяго цікавіла іх, колькі запрацаваў кожны з членаў кааператыва.

А калі ўчулі, што сям'я Аляксандра Кучынскага выпрацавала 726 працадзён і атрымае 4.383 клг. збожжа, 3.630 клг. сена, 2.138 клг. саломы і 69.7 клг. цукру, сям'я Івана Лавіцкага за 630 працадзён — 3,803 клг. збожжа, 2,770 клг. сена, 1,662 клг. саломы і 60,5 клг. цукру, а Язэпа Курцін — удава, за 281 працадзён 1,697 клг. збожжа. 1,405 клг. сена, 743 клг. саломы і 27 клг. цукру, дык пазіралі з радасцю адзін на другога і думалі сабе ў душы: „Праўда, што калектыўная праца прыносіць больш багацця, чым аднаасобніцкая".

Наш каапературў, — кажа Іван Лавіцкі, — мае шырокія магчымасці. Усе мы згодны, каб да нашага кааператыва ўступілі хоць-бы ўсе, сёння тут прысутныя, аднаасобнікі. Працы ў нас кожнаму хопіць.

Ці мы можам пашырыць жывёлагадоўлю ўжо ў гэтым годзе? Так, можам. Двухгадовыя нашы дасягненні паказалі нам, што можам, што маем на гэта поўныя правы".

На зале зрабілася шумна, пасыпаліся пытанні. — „Скажыце, ці гэта праўда? Кажуць, што калі пойдзеш у каапературў, дык будзеш працаваць толькі на даўгі, аж табе вочы будуць вылазіць на лоб", — сказаў нехта з канца зала.

— Гэта праўда, што каапературў наш мае 9.218 зл, даўгу, які павінны мы сплаціць на працягу першых трох гадоў, — адказвае Лавіцкі. — Аднак ёсць у нас магчымасці, каб сплаціць гэты доўг без большай страты для кааператыва. Згодна са статутам 10 працэнтаў агульнага даходу з 1955 года адлічылі мы на пакрыццё даўгоў. Апрача таго маем даход каля 2.000 зл. у месяц з даставы малака, а за два - тры месяцы, прадамо 15 вяпрукоў.

Усё гэта, што гаварыў Лавіцкі, пераканала прысутных аднаасобнікаў. З гэтай праўдай яны вышлі са схода. Іван Тамашавіч Лавіцкі — гэта добры гаспадар.

Ён доўга думаў і ў канцы пераканаўся, што ў калектыўнай гаспадарцы палепшыцца яго жыццё. Напісаў заяву аб прыняцці яго ў члены кааператыва.

За яго прыкладам пайшлі Уладзімір Лінчук і Іван Дарашкевіч.

Ці дасягненні кааператыва магчымы былі ў большым размеры? Так!



*На здымку: Злева, Іван Рашко — старшыня сельскагаспадарчага кааператыва ў Меляшках, Марыя Казёл — член і перадавік працы сельскагаспадарчага кааператыва і адначасова член Грамадскай рады Іван Лавіцкі — рахункавод кааператыва.*

Члены сельскагаспадарчага кааператыва ў Меляшках спадзяюцца, што ў гэтым годзе больш будуць дапамагаць ім аграномы сваімі парадамі. Яны хочуць, каб больш зацікавілася іх кааператывам Прэзідыум Павятовай рады нарадовай, а асабліва Прэзідыум Грамадскай рады нарадовай у Гарадку.

Тады яны ляпей змогуць умацоўваць калектыўную гаспадарку. Будуць смялей і больш карыстацца ўказаннямі V-га Пленума ПЗПР.

А. КАЗЁЛ

Мгр. А. БАРШЧЭЎСКІ — аспірант Вроцлаўскага універсітэта

# А. І. Герцэн — абаронца Беларусі

Беларускі народ на працягу шмат стагоддзяў зносіў путы нацыянальнай залежнасці. Спачатку літоўскія і польскія феадалы, пазней царскія каланізатары грабілі і прыгняталі беларусаў.

І ў такіх умовах з народных нетраў усё магутней раздаваўся голас пратэсту, усё выразней выяўлялася імкненне да вызвалення. Цікава, што ў абарону незалежнасці Беларусі першымі выступілі дэмакратычныя прадстаўнікі братняга рускага народа.

Гэты артыкул, нажаль, толькі фрагментальна азнаёміць чытача з барацьбой рускага рэвалюцыянера - дэмакрата А. І. Герцэна за незалежнасць беларусаў у перыяд падрыхтоўкі польскага паўстання 1863 года.

Герцэн заўсёды даказваў, што Беларусь, Украіна, Польшча і другія славянскія краіны, пасля вызвалення павінны стварыць адзін братні саюз. Герцэн развіваў ідэю садружнасці славянскіх народаў і ў гэтай садружнасці аддаваў галоўнае, пачэснае месца Расіі.

Ён выступаў супроць тых дзеячаў, якія прабавалі пераканаць грамадскасць аб тым, што саюз славянскіх краін трэба проціпаставіць свабоднай Расіі. А Герцэн заўсёды гаварыў, што садружнасць славянскіх краін без удзелу свабоднай дэмакратычнай Расіі будзе нетрывалым і немагчымым. Па яго думцы, славянскія краіны пазбаўленыя дружбы і помачы з боку вялікага рускага народа, не змогуць абараніць сваёй незалежнасці.

У сувязі з гэтым Герцэн пісаў: „...без Расіі ён (саюз славянскіх народаў) не разаўецца, ён расплывецца і будзе паглынуты нямецкім элементам і патраціць сваю самастойнасць. Ды не такі, панашаму меркаванню, — гаворыц. Герцэн, — яго лёс і прызначэнне".

Над глыбінёй і важнасцю гэтых слоў неабходна задумацца. Хоць ідэя Герцэна аб федэрацыі славянскіх краін у многім была памылковай і ўтапічнай, то ўсё-ж такі выказаная вышэй думка, адносна лёсу варожых сабе славянскіх краін, знайшла прарочае сцвярджэнне напярэдадні другой сусветнай вайны, калі буржуазны ўрад Польшчы ўсяляк перашкаджаў у арганізацыі супольнай абароны Савецкага Саюза і Чэхаславакіі супраць гітлераўскай Германіі.

Адкуль пайшла сварка паміж славянскімі краінамі напярэдадні II сусветнай вайны, — усім вядома, таксама, як усім вядомы і рэзультат супольнай барацьбы славянскіх і неславянскіх народаў усходняй Еўропы пад кіраўніцтвам Савецкага Саюза ў канцы антыгітлераўскай вайны.

Абарона Герцэнам незалежнасці беларускага народа асабліва выявілася ў перыяд падрыхтоўкі польскага паўстання 1863 года.

І таму, без аналізы суадносін паміж арганізатарамі паўстання і Герцэнам, немагчыма зразумець барацьбы Герцэна за поўную і бясспрэчную свабоду беларускага народа.

Як вядома, арганізатары польскага паўстання 1863 года былі расколаты на два, ідэйна-варожыя, лагеры — Белых і Чырвоных. Белыя, якія баранілі інтарэсаў арыстакратыі і дваранства, гаварылі, што Беларусь, Украіна і Літва павінны бясспрэчна быць далучанымі да Польшчы. І дзеля таго, Герцэн не дапускаў нават думкі аб магчымасці супрацоўніцтва рускіх, беларусаў і ўкраінцаў з лагерам Белых.

Герцэн ведаў, што ва ўмовах шляхецкай польскай улады беларусы і украінцы ніколі не будуць свабоднымі народамі; наадварот, будуць пад яшчэ большым, чым царскі, нацыянальным і соцыяльным прыгнётам. Адносна праграмы Чырвоных, якая датычыла Беларусі і Украіны, дык трэба сказаць, што яшчэ ў палавіне 1862 года Герцэн аб ёй нічога не ведаў.

Герцэн, як рэвалюцыянер і дэмакрат, ужо тады цвёрда вырашыў, што рускія, беларусы і украінцы стануць па старане паўстаўшых палякаў толькі ў тым выпадку, калі арганізатары паўстання загарантуюць: а) незалежнасць Беларусі, Украіны і Літвы, б) надзел сялян зямлёй.

Каб развеяць сумненне Герцэна адносна характару рыхтуемага паўстання, лідэры з Цэнтральнага Нацыянальнага Польскага Камітэта „Чырвоных" у верасні 1862 года накіравалі Герцэну і другім выдаўцам „Колокола" адозву, у якой выявілі сваю праграму паўстання. Ды калі і гэта не ліквідавала канчаткова герцэнаўскіх сумненняў, тады палякі вырашылі выслаць да Герцэна ў Лондан дэлегацыю. Ды аб гэтым потым.

Чытачу можа паказацца гэта дзіўным, чаму іменна з Герцэнам палякі з лагера „Чырвоных" рашылі весці перагаворы аб будучым паўстанні.

Адказ ясны.

Па-першае: Герцэн быў выдаўцам рускай газеты „Колокол", які тысячамі экземпляраў распаўсюджваўся ў Расіі, Беларусі, Украіне і Польшчы.

 

# Бляскі і цені беластоцкіх дыванаў

Традыцыя яноўскіх ткалляў вельмі даўняя. Пакаленне пакаленню перадавала бясцэннае багацце ўзораў і арнаментаў тэхнікі расліннага фарбавання, якая апрача чыстаты колераў, мае яшчэ другую бясспрэчную якасць — незвычайную трываласць.

Тканіны сакольскіх і яноўскіх ткалляў зрабіліся слаўнымі на міжнародных выстаўках у Совецкім Саюзе, Даніі, Швецыі, Фінляндыі, Венгрыі, Аўстрыі, Мексіцы, Бразіліі, захаплялася імі і бельгійская каралева.

Алімпія Ярашэвіч, выдатнейшая ткалля, паказвае мне клапатліва захаваныя дыпломы, якія яна атрымала на міжнародных конкурсах народнага мастацтва.

У некалькіх, простых словах



*Алімпія Ярашэвіч, ткалля з Янова - Сакольскага працуе над новым узорам дывана.*
*Фото — І. Верас*

расказала мне, як узнік праект, узнагароджанага фестывальнага дывана. У конкурсе ўдзельнічалі ўсе яноўскія ткаллі: Фэліцыя Ярашэвіч, Схаластыка Круповіч, Аляксандра Радульская, Аўрэлія Маеўская і Аляксандра Балакер.

— Але ведаеце што, каб зрабіць такі дыван, трэба мець „спакойную галаву". А тут ведаеце, колькі гэта клопатаў у гаспадарцы... Але думаю сабе так. Што тут такога выткаць? Мо' домік у лесе? Мо' пасеку? Уяўляла-б яна нашую мурашыную працу. Але гэта ўсё мне нейк не спадабалася. Тады я падумала сабе. Чытала ў газеце, што на Сусветным фестывалі моладзі і студэнтаў у Варшаве будзе моладзь з усяго свету. А калі будзе моладзь, то напэўна будзе весела, будуць граць, спяваць ды танцаваць. Трэба, думаю, паказаць замежных гасцей, як яны едуць з чамаданамі, з букетамі кветак, як моладзь розных народаў, узяўшыся за рукі, танцуе ды вясяліцца.

Гэта ўсё я выразна бачыла ў сваіх думках і так памалу ткала...

Двухмесячная творчая праца Алімпіі Ярашэвіч была ацэнена. Праект яе аказаўся найлепшым. — Вось так я працую, — закончыла сваё апавяданне Алімпія Ярашэвіч. — Убачыла вуллі — выткала пасеку, пабывала ў лесе — і такі-ж дыван выткала.

Добра было-б каб у нашым клубе быў нейкі ткацкі куток. Каб мы маглі там збірацца, ды гутарыць аб сваіх справах. А мы-ж маглі-б яшчэ шмат дзяўчат навучыць рукадзеллю.

* * *

Гэта адзін, бліскучы бок яноўскіх дыванаў.

І калі-б я на гэтым закончыў, чытач меў-бы ідылічнае ўяўленне аб вясковых ткаллях, якія напяваючы вясёлыя песенкі, вырабляюць новыя багатыя ўзоры, шматкаляровыя тканіны, атрымліваюць узнагароды, дыпломы і славу на міжнародных выстаўках.

У Янове, як і ў іншых мясцовасцях вядзецца класавая барацьба. Міф аб быццам вялікіх багаццях ткалляў паслужыў асновай для розных кулацкіх махінацый.

Мацей Ярмаловіч, сын Юзэфа, быўшы солтыс, сусед ткаллі Круповіч, вельмі спрытна выкарыстаў сваю пасаду. Ён зніжыў разрад сваіх земляў, а павысіў яго для Круповіч і Ярошэвіч. Так, што цяпер Круповіч, якая мае амаль столькі зямлі, колькі Ярмаловіч, аплочвае падатак: — 2.038 зл., 191 клг. мяса, 635 літраў малака і 660 клг. збожжа. Ярашэвіч плаціць 1.989 зл. падатку, 163 клг. мяса, 544 літраў малака і 660 клг. збожжа, а былы солтыс — Ярмаловіч плаціць 1.138 зл. падатку. Папярэдняя сума 1.367 зл нейкай літасцівай рукой была скрэслена і перапраўлена на 1.138 зл. Гэтая-ж самая рука не паклапацілася і аб тым, каб злучыць зямлю па яўрэю Шапсу Эфрайме ў колькасці 6 (шасці) гектараў, з якой ужо даўным - даўно карыстае Ярмаловіч, і за якую, апрача дастаўленага ў мінулым годзе, 175 клг. мяса, больш не дае дзяржаве ніякіх дзяржаўных паставак.

— Хіба-ж гэтая самая літасцівая рука не магла знайсці ключоў да шафы з рэчавымі доказамі, каб аб гэтым паінфармаваць прадстаўніка нашай рэдакцыі. Толькі пасля двухразовай нашай інтэрвенцыі з Беластока атрымалі мы вышэй памянутыя даныя.

Міф аб багацці ткалляў быў яшчэ пашыраны Міністэрствам культуры і мастацтва, якое няўмела наладзіла справу мастацкага нагляду і продажы выробленых дыванаў.

Якраз тры гады таму ў Варшаве адбылася Усепольская канферэнцыя народных мастакоў (3.III.1953 г.) На гэтай канферэнцыі Міністэрства культуры і мастацтва, ЦПЛіА, а таксама масавыя арганізацыі абавязаліся старанна, усялякімі сродкамі падтрымліваць народную творчасць, а для таленавітых, выдатных мастакоў абавязаліся ствараць адпаведныя ўмовы далейшага творчага развіцця іх працы ў арцелях, пры адначасовым забеспячэнні матэрыяльнай дапамогай і сыравінай.

А як гэта ёсць у сутнасці?

У Міністэрстве Культуры і мастацтва, як і ў Прафсаюзнай арганізацыі працаўнікоў культуры і мастацтва, ганарацца развіццём народнай творчасці ў Янове. (Гэта адна з нямногіх мясцовасцей у Еўропе, дзе квітнее арыгінальнае, народнае мастацтва). Аднак на працягу адзінаццаці год не знойдзена яшчэ грошай на аплочванне інструктажу, не гаворачы ўжо аб забеспячэнні сыравінай і арганізацыі продажы вырабаў.

Створана фікцыйны „Сакольскі вопытны цэнтр" які існуе ў Варшаве, пад кіраўніцтвам прафесара Э. Плютынскай, якая аднача́сова займае такую самую пасаду ў Венгрове і знаходзіцца на штаце Мастацкай акадэміі ў Варшаве. Праф. Плютынская ўжо старая жанчына. Невядома, якім цудам ёй удаецца набываць дэфіцытныя фарбавальнікі, пражу. Яна пасрэднічае ў продажы даванаў, за што плоцяць ёй 25 прац. ад агульнага кошту дыванаў.

Прычыняецца гэта да нездаровай атмасферы ў Янове, што „хтосьці там у Варшаве эксплуатуе яноўскія ткаллі". Не хочам мы тут нікога падазраваць, але аднак нам здаецца, што такая апека з'яўляецца недарэчнай і такая сітуацыя далей існаваць не можа.

Ткаллі на Беласточчыне трэба акружыць сістэматычным мастацкім наглядам.

Думаем, што для здольных ткалляў трэба прызнаць сталую стыпендыю, адцягваючы іх такім чынам ад матэрыяльных клопатаў „каб мелі спакойныя галовы" і маглі пасапраўднаму прысвяціць сябе творчай працы. Трэба наладзіць справу дастаўкі сыравіны па дзяржаўных цэнах і продаж гэтых вырабаў, што ў значнай ступені павялічыць асабістую зацікаўленнасць ткалляў.

Неабходным з'яўляецца ўдакладненне грашовых узнагарод за працу, бо здаецца нам, што цана 240 зл. (за 2—3 тыдні творчай працы), у параўнанні з іншымі аплатамі за прыслугі, з'яўляецца недастатковай. Трэба неадкладна правесці рэвізію разрадаў зямлі ў Янове і размераў падагкаў, а таксама абавязковых паставак дзяржаве.

Ткаллі маюць амбіцыю і пачуццё грамадзянскага абавязку. Яны сістэматычна выконваюць свае заказы, як-жа часта за цану шаблонных вырабаў на „масавасць", а на гэтым трацiць сапраўднае мастацтва і здароўе ткалляў.

Хто ведае, ці не па гэтай прычыне Алімпія Ярашэвіч, здаровая жанчына, мела тры выкідышы.

Трэба як найхутчэй падтрымаць ініцыятыву ткалляў і дапамагчы ім у сарганізаванні ткацкай секцыі пры клубе ў Янове, якая паклала-б пачатак далейшага развіцця самародных талентаў.

Цені з беластоцкіх дыванаў трэба хутка зліквідаваць!

І. ВЕРАС

## Ужо прымаюцца запісы ў Беларускі народны хор

Кажуць — няхай збяруцца хоць чатыры беларускія дзяўчыны, якія з сабой не знаёмыя, але хай толькі пачнуць спяваць, дык адразу раздзеляцца на галасы і створаць самы лепшы хор.

Каб нашыя песні пачулі шырэйшыя колы грамадства — Беларускае грамадска - культурнае таварыства звяртаецца з заклікам да ўсіх, хто можа і любіць спяваць, каму дарагое ёсць багацце нашага беларускага фальклору, і хто толькі мае магчымасць — хай запісваецца ў хор.

Запісы ўжо прымае Галоўнае Праўленне Беларускага грамадска - культурнага таварыства — Беласток вуліца 1 Мая № 3 будынак ТПП-Р, тэлефон 33-35, унутраны — 6.

---

І артыкулы „Колокола", адабраючыя паўстанне і заклікаючыя рускіх, беларусаў і украінцаў на дапамогу палякам, маглі мець значны ўплыў на вынік паўстання.

Па-другое: Герцэн быў у цеснай сувязі з рэвалюцыйнымі арганізацыямі, якія развівалі сваю дзейнасць сярод войск ў Польшчы і Беларусі.

Роля войска ў выпадку паўстання, магла аказацца вялікай.

Такім чынам, і зварот ЦНПК да выдаўцаў „Колокола", і пазнейшы прыезд яго дэлегатаў у Лондан тлумачыцца вялікай, сур'ёзнай роляй, якую адыграў Герцэн у рускім дэмакратычным руху.

Герцэн, прачытаўшы адозву ЦНПК, згадзіўся з неабходнасцю дапамогі паўстанцам. Аднак нельга дагадвацца, што з гэтай пары паміж Герцэнам і ЦНПК наступіла поўная згода.

Ды усё-такі трэба ведаць, што на старонках „Колокола" Герцэн змясціў заклік да „рускіх афіцэраў у Польшчы", у якім звяртаўся да рускіх войск, каб дапамагалі палякам.

„Камітэт — пісаў Герцэн — выразна паказаў права сялян — права да зямлі і на самаўпраўнасць вобласцяў (Украіны, Беларусі, Літвы) уладзіцца па свайму жаданню, — як на асноўныя падставы сучаснага руху". Далей Герцэн звярнуў увагу на тое, што рускія, беларусы і украінцы павінны ўсяляк падтрымліваць польскае паўстанне, таму што яно мае велізарнае значэнне і ў вызваленні Расіі.

„Нельга распачаць эры свабоды ў сваёй радзіме — пісаў Герцэн, — зашморгваючы аднача́сова вяроўку на шыі суседа".

Аднак нельга думаць, што Герцэн безагаворачна падтрымліваў паўстанне. Аб гэтым могуць сведчыць наступныя словы, якімі Герцэн звярнуўся да рускіх, беларускіх і украінскіх салдатаў.

„...ступень вашага актыўнага ўдзелу, залежыць ад таго, якія імкненні адносна асноўнай зямельнай праблемы і адносна правінцый (Беларусі, Украіны і Літвы) — будуць пераважаць у польскім паўстанні".

З гэтага відаць, што ўдзел рускіх, беларусаў і украінцаў у польскім паўстанні, Герцэн абумаўляў характарам гэтага паўстання. І хоць ён і пісаў, што становішча ЦНПК, адносна такіх станоўчых і важных пытанняў, як адносіны да Беларусі, Украіны і Літвы, а таксама надзел сялян зямлёй, згодна з прынцыпамі сучаснага руху, — то ўсё-ж такі ў яго ўсё яшчэ існавала сумненне.

Крыніцай гэтага сумнення было тое, што ў адозве ЦНПК — Герцэн бачыў недастаткова выразна сфарміраваную думку аб поўнай незалежнасці Беларусі, Украіны і Літвы.

„Мы не прызнаем — гаварылася ў адозве — ні новых граніц, ні ўрадаў, заснаваных на руінах нашай свабоды", і далей: „для нас няма раздзельнай Польшчы, для нас Польшча адзіная, такая, якую мы бачым ва ўз'яднанні Польшчы, Літвы і русінаў".

І хоць у другім месцы адозвы ЦНПК гаварылася аб тым, што палякі прызнаюць „...поўную самаўпраўнасць кожнага народа вырашаць аб сваім лёсе,„ — то Герцэн аднак сумняваўся таму, бо ў адозве не гаварылася аб поўнай і безумоўнай свабодзе Беларусі, Украіны і Літвы, якія ўваходзілі ў састаў шляхецкай Польшчы.

І таму, у час перагавораў з дэлегатамі ЦНПК „Чырвоных", Герцэн паставіў пытанне, якое дагэтуль не давала яму спакою, г. зн. праблему поўнай незалежнасці Беларусі, Украіны і Літвы.

У час перагавораў Герцэн выступіў, як непахісны абаронца незалежнасці Беларусі і другіх народаў. Ён патрабаваў, каб палякі ў паўстанчай праграме ясна і лагічна сфармулявалі гэтае пытанне. Прадстаўнікі абяцалі зрабіць гэта.

У сваю чаргу яны звярнуліся да Герцэна, каб ён заклікам да рускай арміі, у якой, як вядома вельмі многа было беларусаў і украінцаў, больш ясна і пэўна паставіў задачы салдатаў і афіцэраў у выпадку польскага паўстання. Герцэн таксама абяцаў зрабіць гэта.

Аднак перагаворы не рашылі поўнасцю хвалюючага пытання. Як вядома, у польскім паўстанні 1863 г. кіраўніцтва ўсё больш пераходзіла ў рукі правага лагера, які імкнуўся да экспансіі на Беларусь і Украіну. І таму, іменна, Герцэн неаднакратна падкрэсліваў, што лідэры польскага паўстання за многа цікавіліся Беларуссю, Украінай і Літвой, а за мала сялянскім пытаннем. У гэтым меў ён поўную рацыю.

Варта дадаць, што Герцэн асабліва ў першы перыяд паўстання, ўсяляк яго падтрымліваў, заклікаючы рускую армію памагаць палякам.

Галоўная думка Герцэна заключалася ў тым, каб і рускія, і палякі прызналі поўную незалежнасць беларускага і іншых народаў.

У закліку да рускіх афіцэраў ён так пісаў: „Скажам разам з палякамі: быць Літве, Беларусі і Украіне, з кім яны хочуць быць, або ні з кім, трэба толькі даведацца, якая іх шчырая сапраўдная воля".

З таго часу, як Герцэн пісаў гэтыя словы, прайшло шмат год. Аднак толькі цяпер пытанне аб незалежнасці Беларусі, Украіны і Літвы вырашана на падставе сапраўднай волі народаў гэтых краін.

Усе яны ўваходзяць у састаў Совецкага Саюза, усе яны знаходзяцца ў самых дружалюбных адносінах з дэмакратычнай Народнай Польшчай.

Мгр. АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ



 

 

# ВЕЛАГОНКА МІРУ

Траса IX велагонкі Міру = 2.207 кіламетраў — на 7 км карацей, чым у мінулым годзе. Колькасць этапаў паменшана з 13 да 12. Па тэрыторыі Польшчы гоншчыкі пройдуць 838 км (5 этапаў), па тэрыторыі ГДР — 720 км (4 этапы) і па Чэхаславакіі — 649 км (3 этапы). Гонка пачнецца 2 мая ў Варшаве і закончыцца 15 мая этапам Брно — Прага працягласцю 236 км.

Значная частка трасы праходзіць па моцна перасечанай мясцовасці ў прадгор'ях Карпатаў. Для поспеху ад гоншчыкаў патрабуецца і сіла волі, і сілавая і хуткасная вынослівасць. Таму за многа месяцаў да старту веласіпедысты Еўропы пачалі падрыхтоўку да гонкі.



*Велагоншчыкі на Плошчы канстытуцыі ў Варшаве. Фото — ЦАФ*

Першай пробай сіл была велагонка па Егіпту, дзе многія каманды прайшлі першую трэніроўку да велагонкі Міру. У егіпецкай гонцы, як вядома, першыя пяць месц занялі каманды Балгарыі, Польшчы, ГДР, Румыніі і Даніі. За імі былі каманды Югаславіі, Чэхаславакіі, Егіпта, Турцыі і Сірыі. У асабістым першынстве перамаглі балгарскія гоншчыкі Ненчо Хрыстоў і Баян Коцэў, уперадзе палякаў Венцкоўскага і Бугальскага. Большасць удзельнікаў егіпецкай гонкі — цяпер у складах каманд да прадстаячай велагонкі Міру.

Дасканала рыхтуюцца да гонкі гоншчыкі Чэхаславакіі. Каманда Чэхаславакіі перамагла ў чатырох гонках з васьмі. Як вядома, у мінулым годзе каманда чэхаславацкіх спартсменаў выйшла пераможнай, прайшоўшы ўвесь шлях ад Прагі да Варшавы ў блакітных майках лідыруючай каманды. І зараз чэхаславацкія веласіпедысты рухтуюцца да барацьбы за першынство. У складзе каманды майстры спорту Ян Кубр, Власціміл Ружычка, Іозэф Кржыўка і Алоіз Нахцігаль і іншыя вопытныя гоншчыкі.

У добрай форме знаходзіцца 22-гадовы Ян Кубр і 24-гадовы Іозеф Кржыўка. Трэба заўважыць, што большасць спартсменаў у камандзе не старэй 22—24 год.

Веласіпедысты Польшчы, ГДР і Румыніі правялі сумесныя трэніроўкі паблізу Орадзя і Клужа на горных дарогах Трансільваніі. У ходзе трэніровак яны правялі пяць кантрольных спаборніцтваў. Так, у другім з іх у гонцы на 100 км першым быў Віснеўскі (Польшча) з часам 2.39:28 — сярэдняя хуткасць 37,8 км у гадзіну. У трэцяй кантрольнай гонцы на 100 км удзельнічала 10 румынскіх, 11 польскіх і 12 нямецкіх спартсменаў. Першым зноў быў Віснеўскі з часам 2.47:10, другім з такім-жа вынікам румын Сандру. Пераможца леташняй велагонкі Міру Шур (ГДР) прайграў пераможцам адну секунду, закончыўшы дыстанцыю трэцім. У кантрольных спаборніцтвах добра сябе праявілі таксама Думітрэску і Парэчану (Румынія), Венцкоўскі, Кругляк (Польшча), Мейстэр 1, Мейстэр 2, Групэ, Фідлер, Цымерман, Грунвальд, у камандзе Румыніі, якія рыхтуюцца пад кіраўніцтвам чэхаславацкага трэнера Алоіза Секуй, выступалі: Думітрэску, Мойчану, Сандру, Васіле, Канстанцінеску і другія.

Балгарская каманда добра сябе праявіла ў міжнародных спаборніцтвах мінулага года. Яна была трэцяй на велагонцы Міру. У пачатку гэтага года балгары выйгралі гонку «Вакол Егіпта». Па вяртанні з Егіпта балгарская каманда пачала пад кіраўніцтвам трэнера Васіля Стаўрэва падрыхтоўку да велагонкі Міру. Трэба заўважыць, што адначасова балгары рыхтуюцца да першынства свету па шасейных гонках, якое адбудзецца ў Капенгагене, і таму ў балгарскай камандзе не будзе папулярнейшых гоншчыкаў Коцэва, Хрыстова, С. Георгіева і Бобчэва. У балгарскую каманду ўключаны: Дзімаў, Крысцеў, Колеў, Л. Георгіеў, Кабураў і другія. Веласіпедысты трэніраваліся ў Сафіі, а затым трэніроўкі перанесены на шасэ пад Плоўдзівам, дзе яны ўжо «накруцілі» звыш 1.500 кілометраў.

Рыхтуюцца да гонкі і веласіпедысты Венгрыі. Яны прымалі ўдзел у гонцы памяці Оста Пенка па маршруту Будапешт — Сталінварош — Будапешт (прыкладна 135 км), якую выйграў Чыкош з часам 3.43:20, паказаўшы сярэднюю хуткасць 36,3 км. На поўкола адстаў Турэк і яшчэ на чвэрць кола Бэндзе і Кушэра.

Зарубежны спартыўны друк шырока каментуе ўдзел у прадстаячай велагонцы Міру каманды Італіі. Вядома, што італьянцы на леташнім першынстве свету занялі першыя два месцы. Італьянскую каманду рыхтуе да гонкі папулярны трэнер Джыавані Проета, які рыхтаваў італьянскіх спартсменаў і да апошняга першынства свету. У складзе італьянскай каманды, праўда, не будзе пераможцы першынства свету Ранучы — ён ужо стаў прафесіяналам. Але тым не менш у італьянскай камандзе будуць мацнейшыя аматары. Сярод іх Джузэпа Фаларыні — пераможца Сяродземнаморскіх іграў 1955 года ў Барселоне. Ён-жа быў шостым на першынстве свету. У складзе каманды таксама Квінто Фурыоні — пераможца многадзённай гонкі па Італіі, Сергіо Семпрыні, Беніто Рамагнолі, Аурэліо Цэстары — маладыя спартсмены, якія маюць тым не менш не малы вопыт удзелу ў шматэтапных спаборніцтвах. Рыхтуючыся да гонкі Міру, італьянцы штодзённа праходзяць не менш 100 кіламетраў і кожны тыдзень спаборнічаюць на 200-кіламетравай трасе.

Упершыню прымуць удзел у велагонцы Міру і веласіпедысты Федэральнай Рэспублікі Германіі. У складзе каманды ФРГ яе чэмпіён па шасейных гонках Карл Лой, Брынкман, Грунефельд, Фрыдрых, Шайнцэн. Гоншчыкі ФРГ маюць намер у парадку трэніроўкі «наварцець» не менш 4.000 км.

У складзе англійскай каманды — Брытэн, Блоўэр, Джоксан і другія мацнейшыя гоншчыкі Англіі. Яны ўзмоцнена трэніруюцца, прымаюць удзел у кантрольных гонках.




*Совецкія велагоншчыкі, удзельнікі VII велагонкі Міру перад выездам на трэніроўку. Фота — ЦАФ.*

Датчане маюць намер уключыць у каманду Педэрсена, Рэвена, Остэргарда, Іонсона, Емборга і Нільсена. Гэта мацнейшыя гоншчыкі Даніі. У такім складзе датская каманда з'ўляецца адным з сур'ёзных сапернікаў у барацьбе за першынство ў гонцы.

Каманда Швецыі праводзіла свае трэніроўкі на поўдні Францыі, а цяпер у Іспаніі.




*Велагоншчыкі на вострым старце Фото — ЦАФ*

Па апошніх паведамленнях старт у Варшаве прымуць 23 каманды: Албанія, Англія, Аўстрыя, Бельгія, Балгарыя, Чэхаславакія, Данія Егіпет, Фінляндыя, Францыя, каманда палякаў, якія жывуць у Францыі, Італія, Югаславія, Люксембург, Венгрыя, ГДР, ФРГ, Нарвегія, Польшча, СССР, Румынія, Швецыя, Турцыя.

Ні ў адной велагонцы Міру не прымала ўдзелу столькі каманд, як зараз. Як адзначае зарубежны спартыўны друк, гэта дае падставу спадзявацца, што IX велагонка Міру пройдзе ў цікавай спартыўнай барацьбе і стане сапраўдным аглядам аматарскага веласіпеднага спорту свету.

Я. ЕФІМАУ.

# Парады гаспадарам

У супастаўленні з артыкулам „Нівы" № 3 — „Парады гаспадарам" падаецца спосаб угнаення кукурузы.

Мінеральныя ўгнаенні пад кукурузу трэба стасаваць большымі дозамі — у наступных гадах па натуральным угнаенні.

У залежнасці ад глебы і становішча даецца на 1 гектар: 200—450 клг. 40 прац. калійнай солі, 100—250 клг. суперфасфату, а азотнае ўгнаенне трэба даваць у 2 дозах: 2/3 гэта значыць 70—160 клг. азатняку перад сяўбой і 1/3 гэта значыць 40—60 клг. салетры ў часе міжрадавай апрацоўкі.

Двухкратнае ўгнаенне азотнае і ў меру мажлівасці другія мінеральныя ўгнаенні, патрэбны дзеля таго, што максімальнае ўспрыманне корму кукурузы адбываецца ў ліпені і жніўні.

Асабліва важным з'яўляецца пры дакормліванні, выкарыстанне гнаёўкі, якую ўжываецца ў колькасці 4—5 тон на 1 гектар — у сумесі з вадой 1:4. Трэба таксама выкарыстоўваць птушыны памёт у ліку 2—4 цэнтнераў на гектар.

Запраўляць зерне ў запраўярцы можна разам з зернікам. З пачатку даецца адпаведную колькасць зерніка (200 грамаў на 100 клг. зерня), а па 5—6 мінутным мяшанні даецца ва ўласцівай прапорцыі ГЦГ і зноў мяшаецца 2—3 мінуты.

ГЦГ забяспечвае не толькі перад друтоўцамі і хваробамі, але таксама і перад такімі шкоднікамі як вароны.

Дзеля барацьбы з варонамі, апрача запраўлення зерня ГЦГ, ужываецца таксама драўлянай смалы — тэру.

Па заканчэнні сяўбы кукурузы трэба парасстаўляць на полі тычкі ў квадрат, у адлегласці 10 метраў адна ад другой. На кожнай тычцы трэба павесіць вехаць змочаны ў смале. Непрыемны запах смалы будзе адстрашаць варон. Дзеля таго, каб намачыць патрэбную колькасць вехцяў на 1 гектар трэба каля 20 клг. смалы

В. ТРАХІМОВІЧ




(7)

Адчуўшы дно, я ўстаю і брыду, а Мікола тым часам сігналіць адпраўленне Калодку. «Зноў крапіва!..» — лаюся ў думках, хіснуўшыся, як ад агню, ад роснага лазовага куста.

— Ну, кіта наструніў, — шэпча Мікола.

Ен цягне шнур, памагае Калодку, якім цяпер той апяразаны. Калодка плавае слаба, з пыхценнем.

— Глядзі, зараз плюхне нагой, хоць разок, — шэпча Мікола, і нябачная, добрая ўсмешка даходзіць да мяне праз дробны перастук яго зубоў.

І праўда, мядзведзь наш збіўся з такту, не змог танцаваць пад вадой. Плюхнула. Раз. І яшчэ раз.

— Харошы дзядзька, — шапчу я, нібы дзеля таго, каб апраўдаць Калодку.

— Нам-бы толькі яго накарміць, — з той самай усмешкай у голасе кажа Мікола.

— А сам не еў-бы?

— Сам? І сам я, браце, без вусам... Ну, усё.

Калодка выходзіць з вады і, здымаючы свої падвойны клунак, шэпча:

— Ххол-лад-дна, тр-рас-цца яй-е ггал-лав-ве!.. Гэта — чыстая, голая і да чорцікаў сцюдзёная праўда. Мы хутка апранаемся і нам, як заўсёды ў такі момант, робіцца значна цяплей ад думкі, што вось і яшчэ адна перашкода — за намі.

* * *

А гэта ўсё-ж такі была яшчэ Германія!

За лугам, калі пачаліся палі, пад нагамі ў нас шарахцела спачатку іржышча, пасля пачалося вялікае поле бручкі. Ужо сцямнела настолькі, што ў небе — навокал над намі, — праявіліся першыя тысячы зорак. Нехапала толькі месяца, у святле якога — на вялікім абшары зямлі — халодна блішчэла-б роснае бручкавінне, як часта бывала раней, нейкіх дзвесце, не больш кіламетраў за намі.

— Ну, вось... — сказаў Мікола, першы прыпадаючы да харчу. У голасе яго была і радасць галодных, і злосць на тое, што і яшчэ за адным вадзяным рубяжом краіна нашай няволі не скончылася...

Голад мы пакідаем тут-жа, на месцы. Міколаў ножык пераходзіць з рук у рукі і аблыселыя пры дапамозе яго галовы бручкі дзіка хрумсцяць пад нашымі зубамі. Па меры таго, як напаўняецца халаднаватым і салодкім сокам наша нутро, я пачынаю заўважаць больш выразна, што мы адны пад высокімі зоркамі, што мы сядзім на зямлі, якая нават грэе нас, што мы нібы прыпалі да яе грудзей, каб нацягнуцца сілы.

— Пагрызем, а пасля і паскачам, як зайцы, — гаворыць Мікола.

Калі ўстаем ісці, Калодка выбірае яшчэ адну бручку, і мы, па прыкладу яго, вырываем па бручцы таксама. Потым доўга ідзем, як заўсёды, адзін за адным і на такой адлегласці, што шэптам гаварыць не можна.

Бручка, іржышча, бульбянік, ралля, зноў іржышча здаюцца мне менш дзікімі, чым лес і луг. Маленькія бабкі аўса, густыя рады якіх часта трапляюцца на шляху, здаюцца мне маленькімі дамамі, у якіх зусім нядаўна патухлі агеньчыкі. Мы ідзем, як па вуліцы нейкага казачнага пасёлка, і зманлівае адчуванне жылля так настойліва непакоіць мяне, што я, нарэшце, здаюся.

— Прывал, сябры мае, — кажу, і гэта ўспрыймаецца не як загад, а як агульная думка.

Працяг будзе



 

